Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 1 20 чэрвеня 1929 году.



# ВЕСТКІ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальш.) БЕЛАРУСІ.

ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 585.

Падпіска прымаецца выключна ва ўсіх паштовых установах БССР.
УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.



## Да ўсіх членаў КП(б)Б.

*Рэдакцыя запрашае ўсіх членаў партыі стаць актыўнымі ўдзельнікамі ў выданьні „Вестак“ ЦК КП(б)Б.*

*На мясцох ува ўсіх галінах партыйнай працы ёсьць вельмі шмат каштоўнага вопыту, які павінен быць высьветлены ў часопісе. Праз „Весткі ЦК“ партыйныя арганізацыі павінны абменьвацца вопытам сваёй практычнай работы са ўсёй КП(б)Б.*

*Выхад першага нумару некалькі затрымаўся. Надалей своечасовы выхад „Вестак“ будзе ў значнай меры залежаць ад карэспандэнцкай актыўнасьці членаў партыі. Рэдакцыя ўпэўнена ў тым, што гэта актыўнасьць будзе разгорнута досыць шырока і карэспандэнты „Вестак“ дадуць для часопісі багаты і каштоўны матар'ял.*

*РЭДАКЦЫЯ.*



## Узмацніць тэмп.

Бюро ЦК разглядала пытаньне аб вярбоўцы рабочых у партыю і рэгуляваньні сацыяльнага складу партарганізацыі. Гэта пытаньне разглядалася з пункту погляду выкананьня пастаноў XII зьезду КП(б)Б аб тым, што да канца 1930 году процант рабочых ад варштату і батракоў у складзе партарганізацыі павінен быць даведзен да 50. У ЦК меліся матар'ялы, характарызуючыя рост па асобным арганізацыям за IV-й квартал мінулага году і 1-й квартал бягучага.

Ня гледзячы на тое, што 1-й квартал бягучага году дае некаторае палепшаньне, Бюро ЦК прымушана было прызнаць тэмп вярбоўкі рабочых у партыю нездавальняючым і не забясьпечваючым выкананьня пастаноў XII-га зьезду па гэтаму пытаньню. У той час, калі па ўсёй КП(б)Б неабходна забясьпечыць у прытоку ня менш 78% рабочых ад варштату, IV-й квартал дае вялікае недавыкананьне (52,3%), у 1-м квартале ёсьць палепшаньне (70,9%), а наогул процант рабочых ад варштату адстае. Нездавальняючыя таксама вынікі па колькаснаму росту. Асабліва вызначаецца Віцебская арганізацыя, якая прыняла ў IV-м квар-



тале ўсяго 66 рабочых ад варштату, а ў І-м кварталё 1929 г.—101 чал. рабочых з вытворчасьці. Да Віцебскай арганізацыі мы ўправе прад‘яўляць больш сур‘ёзныя запатрабаваньні ў галіне вярбоўкі рабочых, бо рабочая праслойка ў Віцебску шмат шырэйшая, чым у цэлым шэрагу другіх акруг.

Вельмі няроўнамерна разьмяркоўваецца прыток рабочых з вытворчасьці па асобным прадпрыемствам. Як правіла, за некаторымі асобнымі выключэньнямі, наглядаецца, што чым больш прадпрыемства, тым прыток адносна слабей. Адстае таксама прыток работніц у адносінах да агульнага прыёму рабочых ад варштату. Яшчэ горш ідзе вярбоўка батракоў і с-г рабочых. IV-й квартал дае батракоў і с-г. рабочых у агульным вясковым прыёме 21,3%, а І-й квартал 1929 г.—39,3%. Дырэктыва XII-га зьезду аб забесьпячэньні ў вясковым прыёме ня менш 50% батракоў і с-г рабочых такім чынам ня выканана. Слаба ўцягваюцца ў партыю беднякі-калгасьнікі. Разам з гэтым некаторыя арганізацыі даюць у прыёме ўсё яшчэ вялікі процант нерабочых.

Усе гэтыя даныя гавораць аб тым, што ў нашай рабоце па вярбоўцы ў партыю і рэгуляваньню сацыяльнага складу маецца вельмі шмат недахопаў. Нельга, вядома, адмаўляць узмацненьне ўвагі да гэтага пытаньня з боку партарганізацыі. Пытаньнем вярбоўкі і рэгуляваньня сац. складу займаюцца больш, чым раней, але яшчэ ня мала парт‘ячэек, вытворчых і асабліва вясковых, якія займаюцца гэтай справай „наогул“. Канкрэтна, практычна гэта пытаньне як належыць не прапрацована ў нізавых ячэйках. А кожная ячэйка і кожная група рабочых патрабуе асаблівага падыходу, шаблён і агульны падыход у гэтай справе зусім ня можа мець месца.

Галоўнейшая прычына, якая тармозіць рост за лік рабочых і батракоў, заключаецца ў вельмі недастатковай і няўмелай часта рабоце па вывучэньню і выяўленьню рабочага і батрацкага актыву, набліжэньню яго да партыі, уцягваньню ў грамадзкую работу і выхаваньню яго. Ёсьць значныя групы рабочых і батракоў, якія ня так часта выступаюць на сходах, але зьяўляюцца прыкладнымі на вытворчасьці, клясава-выхаванымі, аб якіх ячэйкі часта і ня ведаюць.

Вярбоўкай у партыю, як і раней, у большасьці выпадкаў займаюцца толькі адказныя працаўнікі парт‘ячэйкі, а ня ўся партарганізацыя. Яшчэ ня ўсвоена тое, што пярвейшы абавязак камуніста—гэта работа па вярбоўцы ў партыю рабочых, батракоў, беднякоў, калгасьнікаў. А ў вёсцы нашы ячэйкі не канцэнтруюць сваёй увагі на рабоце ў саўгасах, калгасах і сярод батрацтва. Вычэрпваючыя практычныя дырэктывы ЦК УсеКП(б) і Аргнарады пры ЦК КП(б)Б аб рабоце сярод батрацтва і калгасьнікаў праводзяцца ў жыцьцё слаба.

Цяжка пералічыць усе недахопы, адбіваючыяся на нармальным росьце за лік рабочых і батракоў. Усёй партарганізацыі неабходна зараз-жа праверыць сваю работу, практычныя пастановы па пытаньню аб вярбоўцы ў партыю рабочых, дасканала вывучыць усе прычыны, затрымліваючыя рост, праверыць, як на справе выконваюцца рашэньні партыі па гэтаму пытаньню. Гэта трэба зрабіць зараз-жа, тым больш таму, што летні пэрыяд заўсёды даваў некаторае паслабленьне росту. Акругкомам і райкомам неабходна вылучыць дырэктыву ЦК аб прысылцы шэрагу адказных працаўнікоў у нізавыя ячэйкі дзеля практычнай дапамогі ім у пастаноўцы масавай работы.

Задача, пастаўленая XII-м зьездам аб забесьпячэньні ў складзе КП(б)Б 50% рабочых з вытворчасьці і батракоў, цяжкая, але-ж выканаць яе можна. Неабходна толькі неаслабна сачыць за ростам партыі, сыстэматычна праўляць зьмены, адбываючыяся ў сацыяльным складзе асобных арганізацый, падтрымліваць узмоцнены тэмп вярбоўкі ў партыю

рабочых з вытворчасьці і батракоў. Неабходна разам з тым забясьпечыць якасны склад партыйнага прытоку. Толькі пры ўмовах рашучага ўзмацненьня тэмпу вярбоўкі рабочых і батракоў наша партарганізацыя выканае пастанову XII-га зьезду КП(б)Б. *В. Гантман.*

# Палепшым якасьць партыйнага кіраўніцтва.

*(Да вынікаў абсьледваньня Пралетарска-Слабодзкай райпартарганізацыі Віцебскай акругі).*

Складаныя задачы бягучай паласы сацыялістычнага будаўніцтва ставяць перад намі ва ўвесь рост праблему павышэньня якасьці партыйнага кіраўніцтва.

Паляпшэньне якасьці парткіраўніцтва павінна ісьці ў першую чаргу па лініі яго канкрэтызацыі, бо буйнэйшыя недахопы ў рабоце нашых партарганізацый—гэта дэкларацыйнасьць, неканкрэтнасьць кіраўніцтва. Прынцыпіяльная лінія ня ўвязываецца з канкрэтнымі ўмовамі і асаблівасьцямі данага раёну і пэрыяду. Бяруцца за шмат задач разам, ня ўмеюць ухваціцца сваечасова за асноўнае, галоўнае ў нашай партыйнай рабоце; дырэктывы вышэйшых парторганаў не канкрэтызуюцца і не прыстасоўваюцца да мясцовых асаблівасьцяй. У выніку ўсяго гэтага палітычная лінія (правільная сама па сабе) адбіваецца толькі ў агульных, рэзалюцыях, кіраўніцтва ідзе мімаходзь жыцьця.

На вопыце работы Пралетарска-Слабодзкай арганізацыі можна відавочна ў гэтым пераканацца. Калі прагледзіць пратаколы райкому, дык можна ў іх знайсьці дырэктывы і пастановы амаль па ўсім пытаньням: аб рацыяналізацыі, зьніжэньні сабекошту, камсамоле, росьце арганізацыі, нацрабоце, аб рабоце ў цаху і г. д. І з другога боку ў практычнай пастаноўцы работы ў гэтых галінах агульныя дырэктывы райкому вельмі слаба адбіты на справе.

Да самага апошняга часу адсутнічалі колькі-небудзь сур'ёзныя дасягненьні ў вытворчым жыцьці, масавая работа пастаўлена нездавальняюча, дрэнна арганізавана партвучоба, меў мейсца вялікі ўпадак тэмпу роста арганізацыі, вялікая колькасьць хваравітых зьявішч сярод партыйцаў і асабліва вялікі адсеў партыйцаў кастрычнікавага прызыву (14%), зусім не наладжана нацработа, слабая работа цэх'ячэек і нізавых зьвеньняў партыі (групоргі і інш.).

Чым-жа ўсё гэта можна тлумачыць?

Перш за ўсё гэта тлумачыцца неканкрэтнасьцю парткіраўніцтва. Арганізацыя нясе вялікую нагрузку ў штодзённай працы, праводзіцца вялікая колькасьць пасяджэньняў, сходаў і нарад, абгаварваецца шмат пытаньняў і выносіцца многа пастаноў. Уся сыстэма партыйных і масавых арганізацый у раёне мае даволі шпаркі тэмп. Але ўся бяда ў тым, што ў вельмі значнай частцы ўсё гэта робіцца ў халастую.

Зьмест і ўстаноўка ў рабоце райкому і ўсёй арганізацыі ня былі ў належнай меры зьвязаны з канкрэтнымі ўмовамі і асаблівасьцямі раёну. Райком ня сумеў у належнай меры мабілізаваць увагу арганізацыі на самых важных вузлавых задачах; перагружаў ячэйкі самымі рознастайнымі па зьместу дырэктывамі, адцягваючы гэтым самым іх увагу ад асноўных задач, і не арганізаваў кантролю і праверкі выкананьня.

Умовы работы і асаблівасьці раёну (наяўнасьць вялікай колькасьці новых рабочых, нізкі культурна-палітычны ўзровень іх, цяжкія бытавыя ўмовы, гаспадарчыя цяжкасьці на прадпрыемствах, маладая па стажы партарганізацыя, слабасьць партактыву) патрабавалі ад райкому і арганізацыі энэргічнай работы па ўзмацненьню і бальшавізацыі

самой партарганізацыі, у прыватнасьці па выхаваньню новага папаўненьня. Патрэбна было вывучаць склад рабочых і прыстасоўваць формы і зьмест масавай работы да ўзроўню і запатрабаваньняў паасобных праслоек рабочых; арганізаваць штодзенную работу па барацьбе з адсталымі настроямі і арганізаваць актыўнасьць мас вакол асноўных задач вытворчага будаўніцтва на падставе шырокага рашучага разгортваньня самакрытыкі.

Між тым гэтыя задачы ня былі высунуты на першы плян, а некаторыя з іх зусім не адбіліся ў рабоце.

Пытаньні партвучобы, выхаваньня новага папаўненьня не занялі належнага мейсца ў рабоце арганізацыі. Вучоба арганізавана дрэнна, ахоплена ўсяго 57%, наведваньне нізкае (60%), падбор кіраўнікоў дрэнны, у ячэйках ня створана належнага настрою вакол партвучобы. Ня было праяўлена належнай энэргіі для пастаноўкі выхаваўчай работы з новым папаўненьнем і адстаючымі партыйцамі. Не мабілізавана ўвага ячэек вакол пытаньня аб росьце арганізацыі, рост ідзе самацёкам, наглядаецца рэзкі ўпадак тэмпу росту пасьля кастрычнікавага прызыву (прынята ўсяго 76 ч.). Райком ніразу не праводзіў якаснага аналізу росту. Работа па растлумачэньню сутнасьці правага ўхілу па барацьбе з яго канкрэтнымі праявамі носіць не сыстэматычны, абстрактны характар.

А ў выніку ўнутрыпартыйнае становішча організацыі нельга прызнаць здавальняючым (ня зусім поўнае разуменьне сутнасьці правага ўхілу, вялікая колькасьць хваравітых зьявішч, вялікі адсеў—14% кастрычнікавага прызыву і г. д.).

Ня была арганізавана работа па вырашчываньню і падрыхтоўцы нізавога партыйнага актыву.

Масавая работа зьяўляецца самым слабым зьвяном у рабоце Прал.-Слаб. арганізацыі. Асноўным недахопам зьяўляецца яе непрыстасаванасьць да розных праслоек рабочых. Ні райком, ні цэхячэйкі на „Дзьвіне“ ня маюць дасканалага ўяўленьня аб складзе рабочых. Ніякай асобнай работы з новымі рабочымі не вялося, масавая работа не прыставана да абслугоўваньня, рабочых, зьвязаных з вёскай, не арганізавана работа на мейсцы кватэраваньня рабочых. Насьценгазэты на „Дзьвіне“ ня выходзяць з мая 1928 г. Слаба скарыстоўваецца палудзенны перапынак. Ліквідацыя няпісьменнасьці пастаўлена дрэнна. Зусім не наладжан вучот настрояў і запатрабаваньняў рабочых. Таксама не наладжана нацработа.

Няўменьне арганізаваць узрастаючую актыўнасьць рабочых мас вакол карэнных пытаньняў вытворчасьці, недастатковае разгортваньне самакрытыкі і слабае яе пераламленьне ў практычнай рабоце,—вось асноўныя і рашаючыя недахопы.

Яшчэ да гэтага часу слаба разгорнута самакрытыка, асабліва сярод рабочых і работніц на „Дзьвіне“. З боку паасобных працаўнікоў раёну было дапушчана некалькі выпадкаў грубога парушэньня рабочай дэмакратыі. Ня гледзячы на цяжкае становішча фабрыкі „Дзьвіна“ (старое і зношанае абсталяваньне, дэфіцытнасьць, павышэньне сабекошту на 11%), рабочыя слаба прыцягваюцца да абгаварэньня пытаньняў вытворчага жыцьця.

Дрэнна пастаўлена кіраўніцтва ячэек вытворчым жыцьцём. Пры наяўнасьці вялікай колькасьці дырэктыў райкому па пытаньнях гаспадарчага будаўніцтва, пры павялічэньні ўдзельнай вагі вытворчых пытаньняў у рабоце ячэек, іх роля і ўплыў на вытворчасьць яшчэ нязначны. Ячэйкі ня ўмеюць ухапіцца за самае галоўнае ў жыцьці свайго цэху, ня ўмеюць практычна падыйсьці да вырашэньня канкрэтнага пытаньня, спаўзаюць на шлях фармальнага вырашэньня. У выніку—невыкананьне дырэктыў па зьніжэньню сабекошту, адм.-гасп. расходаў, нездавальняючая работа вытворчых нарад і г. д.

Такім чынам па трох цэнтральных галінах работы Пралетарска-Слабодзкая арганізацыя мае самыя буйныя недахопы. І было-б няправільна шукаць прычыну гэтага ў об‘ектыўных цяжкасьцях. *Асноўная прычына ляжыць у няправільным пабудаваньні ўсёй сыстэмы работы райкому і арганізацыі:* дэкляратыйнасьць, неканкрэтнасьць кіраўніцтва, раскіданасьць у рабоце, няўменьне своечасова паставіць, вылучыць пытаньне, своечасова пераключыцца на тую ці іншую ўдарную задачу, своечасова ўхапіцца за патрэбнае, галоўнае ў рабоце партыі; няўменьне зьвязаць агульную лінію партыі са ўсімі канкрэтнымі своеасаблівасьцямі сваёй арганізацыі.

Трэба адзначыць, што гэтыя недахопы ёсьць і ў большасьці другіх райкомаў і ячэек. Вось чаму задача паляпшэньня якасьці парткіраўніцтва павінна быць з усёй рашучасьцю пастаўлена перад усімі партарганізацыямі.

Канкрэтызацыя партыйнага кіраўніцтва, вучот практычнага вопыту, кантроль і праверка выкананьня, умелая арганізацыя актыўнасьці рабочых вакол карэнных пытаньняў вытворчасьці на падставе шырокага разгортваньня самакрытыкі і яе пераламленьня ў практычнай рабоце, утварэньне вакол партарганізацыі шырокага рабочага актыву, большая рознастайнасьць форм і зьместу масавай работы,—вось тыя рашаючыя зьвеньня, за каторыя трэба ўхапіцца, каб з большым посьпехам выканаць асноўную задачу максымальнага ўзмацненьня тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва.

**І. Дарахаў.**

---

## Вярбоўка рабочых у партыю ў 1 квартале 1929 г.

*(Па стат. матар‘ялам ЦК КП(б)Б).*

XII зьезд КП(б)Б пастанавіў перад усёй КП(б)Б задачу „дамагчыся, каб да канца 1930 году ў КП(б)Б было ня менш за 50% яе складу рабочых, непасрэдна занятых у вытворчасьці, у тым ліку батракоў і с.-г. рабочых“. Дзеля вырашэньня гэтай задачы зьезд прызнаў неабходным „забясьпечыць у складзе тых, якія прымаюцца ў партыю ў Менскай, Віцебскай і Гомельскай арганізацыях ня менш 90% рабочых з вытворчасьці, батракоў і с.-г. рабочых, а па ўсіх другіх акругах ня менш 70%“.

Рост КП(б)Б за 1 кв. 1929 г. паказвае значнае палепшаньне ў параўнаньні з ростам за мінулы год.

| Акругі | Усяго прынята ў КП(б)Б за 1 кв. 1929 г. | | | З іх рабочых па занятках | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | абс. | у % % да IV кв. 1928 г. | у % % да сярэд. кв. 1928 г. | абс. | у % % да агул. прыёму | у % % да прыёму рабочых у IV кв. 1928 г. | у % % да сярэд. кв. прыёму рабочых у 1928 г. |
| Па КП(б)Б . . . | 1847 | 151,8 | 122,0 | 1309 | 70,9 | 205,8 | 154,3 |
| Менская . . . . | 416 | 117,8 | 105,3 | 183 | 44,0 | 112,2 | 101,1 |
| Віцебская . . . | 126 | 140,0 | 60,0 | 101 | 80,2 | 153,0 | 58,0 |
| Гомельская . . . | 489 | 186,6 | 181,1 | 436 | 89,2 | 253,5 | 265,9 |
| Бабруйская . . . | 260 | 236,4 | 189,0 | 204 | 78,5 | 268,4 | 206,0 |
| Аршанская . . . | 143 | 87,7 | 77,2 | 123 | 86,0 | 164,0 | 139,8 |
| Магілеўская . . . | 120 | 173,9 | 86,9 | 86 | 71,7 | 260,6 | 119,4 |
| Полацкая . . . | 183 | 358,8 | 148,8 | 108 | 59,0 | 270,0 | 270,0 |
| Мазырская . . . | 110 | 93,2 | 123,6 | 68 | 61,8 | 161,9 | 219,3 |

Такім чынам у 1 кв. 1929 г. адзначаецца значнае павялічэньне тэмпу агульнага прыёму ў КП(б)Б і асабліва тэмпу прыёму рабочых з вытворчасьці.

Значна адстала ў тэмпе як агульнага прыёму, так асабліва прыёму рабочых, Віцебская арганізацыя. Аршанская і Магілеўская арганізацыі ўзмацнілі тэмп уцягваньня рабочых, але адсталі ў тэмпе агульнага прыёму.

Ня гледзячы на паказаны зрух у напрамку ўзмацненьня росту КП(б)Б за лік рабочых, апошні як абсалютна, так і адносна ўсё-ж яшчэ застаецца невыстарчальным з пункту погляду рэалізацыі дырэктыў зьезду. Асабліва невыстарчальны рост за лік рабочых у Менскай арганізацыі (44% у складзе прыёму, замест вызначаных зьездам 90%) і Віцебская (80.2%, замест 90% пры нязначным наогул абсалютным ліку прынятых). У Магілеўскай арганізацыі пры здавальняючым % рабочых у складзе прынятых у партыю, патрэбна адзначыць невыстарчальны абсалютны рост за лік рабочых. Невыстарчальны рост за лік рабочых у Менскай, Віцебскай і Магілеўскай арганізацыях у значнай ступені тлумачыцца досыць высокім % адсеву пры прыёме, што відаць з наступных данных:

| | Па КПБ | Менск | Віцебск | Гомель | Бабруйс. | Ворша | Магілеў | Полацак | Мазыр |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| % адсеву рабочых . . | 34,9 | 43,5 | 41,6 | 34,8 | 29,4 | 13,4 | 42,6 | н. з. | 29,9 |

## Уцягваньне ў партыю батракоў і с.-г. рабочых.

Паглядзім зараз, у якой ступені рэалізуецца дырэктыва зьезду аб узмацненьні росту за кошт батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых:

| Арганізацыя | Прынята ў 1 кв. 1929 г. у партыю батракоў і с.-г. рабочых | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Усяго | у % % да агульн. прыёму | у % % да сярэд. кв. прыёму за 1928 г. | у % % да усіх прынятых у вясковых ячэйках |
| Па КП(б)Б . . . | 139 | 7,5 | 175,9 | 39,3 |
| Менская. . . . | 33 | 7,9 | 143,5 | 31,7 |
| Віцебская . . . | 7 | 5,5 | 140,0 | 35,0 |
| Гомельская . . . | 20 | 4,1 | 235,0 | 38,0 |
| Бабруйская . . . | 41 | 15,8 | 280,5 | 51,9 |
| Аршанская . . . | 16 | 11,2 | 145,5 | 76,2 |
| Магілеўская . . . | 6 | 5,0 | 120,0 | 18,2 |
| Полацкая . . . | 5 | 2,7 | 71,4 | 26,3 |
| Мазырская . . . | 11 | 10,0 | 157,1 | 39,3 |

Такім чынам, па ўсім акругам, акрамя Полацкай, адзначаецца некаторае павялічэньне ўцягваньня ў партыю батракоў і с.-г. рабочых. Але разам з гэтым патрэбна адзначыць, што дырэктыва зьезду аб забесьпячэньні ў складзе прыймаемых у партыю ў вясковых ячэйках ня менш 50% батракоў і с.-г. рабочых выканана толькі Бабруйскай і Аршанскай арганізацыямі. Асабліва адстаюць Полацкая, Магілеўская і Віцебская акругі.

## Рост за лік работніц і батрачак.

Рост у 1 кв. 1929 г. за лік работніц і батрачак характарызуецца наступнымі данымі:

| Арганізацыя | Усяго прын. жанч. | У %% да агул. прыёму | У %% да Сярэдн. кв. прыём. жанчын у 1928 г. | Усяго прын. работніц | У %% да агульн. прыёму рабочых | У %% да агульн. прыёму жанчын | Усяго прын. батрач. і с.-гасп. работн. | У %% да агул. прыёму батр. і с.-г. рабочых | У %% да агульн. прыёму жанч., занят. у с. гасп. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па КП(б)Б . . . . | 275 | 14,9 | 143,9 | 227 | 17,3 | 82,5 | 19 | 13,7 | 38,8 |
| Менская . . . . . | 40 | 9,6 | 97,6 | 28 | 15,3 | 70,0 | 1 | 3,0 | 14,3 |
| Віцебская . . . . . | 23 | 18,2 | 59,0 | 20 | 15,9 | 87,0 | 3 | 42,8 | 60,0 |
| Гомельская . . . . | 112 | 22,9 | 386,0 | 99 | 22,7 | 88,4 | 5 | 25,0 | 45,5 |
| Бабруйская . . . . | 30 | 11,6 | 176,9 | 22 | 10,8 | 73,3 | 5 | 12,2 | 50,0 |
| Аршанская . . . . | 18 | 12,6 | 72,0 | 15 | 12,2 | 83,3 | 1 | 6,2 | 33,3 |
| Магілеўская . . . . | 11 | 9,2 | 61,1 | 7 | 8,0 | 63,6 | 1 | 10,0 | 20,0 |
| Полацкая . . . . . | 23 | 12,6 | 177,0 | 19 | 17,6 | 82,6 | 1 | 20,0 | 20,0 |
| Мазырская . . . . | 18 | 16,4 | 180,0 | 17 | 25,0 | 94,4 | 2 | 18,2 | 66,6 |

За 1 кв. 1929 г. адзначаецца павялічэньне тэмпу прыёму жанчын у КП(б)Б (значна адстаюць у гэтым напрамку Віцебская, Магілеўская і Аршанская арганізацыі), прычым, у пераважнай большасьці, гэты рост ідзе за лік работніц. Але ўцягваньне работніц у партыю адносна і абсалютна яшчэ невыстарчальна. Асабліва слаба ідзе ўцягваньне работніц па Магілеўскай, Аршанскай, Віцебскай і Менскай арганізацыях.

Што датычыцца ўцягваньня ў партыю батрачак і сельска-гаспадарч. работніц, то ў гэтым напрамку амаль ніякага зруху яшчэ няма.

## Рост за лік камсамольцаў.

Рост за лік камсамольцаў характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | Па КП(б)Б | Менск. | Віцебск. | Гомельск. | Бабруйск. | Аршан. | Магіл. | Полацк. | Мазыр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| % камсамольц. у складзе прынятых у партыю: | | | | | | | | | |
| За 1928 г. . . . | 44,1 | 51,8 | 35,6 | 39,2 | 36,0 | 43,0 | 37,9 | 57,7 | 49,3 |
| „ I кв. 1929 г.. . | 37,4 | 51,3 | 26,9 | 31,5 | 35,4 | 35,6 | 19,1 | 39,9 | 46,4 |
| У складзе прынятых камсамольц. рабочых у %%: | | | | | | | | | |
| у 1928 г.. . . . | 50,5 | 41,7 | 78,0 | 71,5 | 65,3 | 42,4 | 45,7 | 22,2 | 37,5 |
| у I кв. 1929 г. . . | 59,9 | 28,0 | 58,8 | 96,1 | 66,3 | 78,4 | 82,6 | 45,2 | 66,7 |

Такім чынам у 1 кв. 1929 г. адзначаецца па ўсім арганізацыям памяншэньне % камсамольцаў у складзе прынятых у партыю ў параўнаньні з прыёмам за 1928 г. Пры некаторым павышэньні % рабочых у складзе прыймаемых камсамольцаў, апошні яшчэ невыстарчальны. Асабліва гэта датычыцца Менскай, Полацкай і Віцебскай акруг.

Апошняе тлумачыцца тым, што значная частка прыймаемых у партыю камсамольцаў у гэтых акругах падае на вайсковых (пагранатрады).

## Прыём у партыю нерабочых элемэнтаў.

Патрэбна яшчэ застанавіцца на тым, як выконваецца дырэктыва XII зьезду аб тым, каб давесьці да мінімуму прыём у партыю нерабочых элемэнтаў.

Прыём за лік нерабочых элемэнтаў у I кв. 1929 г. вызначаецца ў наступных лічбах (у %% да агульнага ліку прынятых).

| Прынята | Па КП(б)Б | Менск. | Віцебск. | Гомел. | Бабруйск. | Аршан. | Магілеўск. | Полацк. | Мазыр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сялян . . . . . . | 11,6 | 17,0 | 10,3 | 6,5 | 13,5 | 3,5 | 22.4 | 7,6 | 15,5 |
| у тым ліку калгасьнік. . | 2,1 | 1,0 | 6,3 | 0,6 | 3,5 | 2,8 | 1,7 | 1,6 | 5,5 |
| Служачых . . . . . | 3,4 | 5,1 | 8,7 | 0,8 | 4,2 | 8,4 | 1,7 | 1,1 | — |
| Малодш. абсл. пэрс.. . | 1,3 | 1,0 | 0,8 | 2,7 | 0,8 | — | 1,7 | 1,1 | 0,9 |
| Іншых . . . . . . | 12,8 | 32,9 | — | 0,8 | 3,0 | 2,1 | 2,5 | 31,2 | 21,8 |
| Усяго нерабоч. элемэнт. | 29,1 | 56,0 | 19,8 | 10,8 | 21,5 | 14,0 | 28,3 | 41,0 | 38,2 |

Прыём нерабочых элемэнтаў па КП(б)Б у I кв. 1929 г. яшчэ складае значны % у агульным прыёме. Гэта выклікана, галоўным чынам, значным прыёмам у партыю „іншых“ па Менскай, Полацкай і Мазырскай акругах. Трэба адзначыць, што прынятыя „іншыя“ па паказаных акругах — пераважна вайсковыя (паграрнатрады). Побач з гэтым трэба адзначыць, што ў складзе прынятых нерабочых элемэнтаў па Віцебскай, Менскай, Бабруйскай і асабліва Аршанскай акругах яшчэ вельмі высокі % служачых.

Што датычыцца прыёму сялян, то патрэбна адзначыць зусім слабае ўцягваньне калгасьнікаў, асабліва па Менскай, Магілеўскай, Гомельскай і Полацкай акругах.

## Ход вярбоўкі ў партыю рабочых на буйных прадпрыемствах.

Як ідзе вярбоўка рабочых у партыю на больш буйных прадпрыемствах БССР?

Па 6 буйных прадпрыемствах, вылучаных для спэцыяльнага нагляду („Дзьвіна“, „Чырвоны Мэталісты“, Галоўн. Гомельск. Чыгун. майстэрні, „Гэрой Працы“, „Чырвоная Бярэзіна“, „Профінтэрн“), на якіх налічваецца 8.636 рабочых (з іх 3.326 работніц), усяго было падана за I кв. 1929 г. 151 заява аб уступленьні ў партыю, што складае ў сярэднім 2,1 заявы на 100 беспарт. рабочых. З агульнага ліку заяў падана работніцамі—35, што складае ў сярэднім 1,1 заявы на 100 беспарт. работніц. Прынята ўсяго ў партыю за I кв. 1929 г. на гэтых прадпрыемствах 98 чал. (7,4% усіх прынятых па КПБ за I кв. 29 г. рабочых), з іх усяго 13 работніц.

Па паасобным прадпрыемствах прынята: „Дзьвіна“—7 чал., з іх 5 работніц, „Чырв. Мэт.“—11 ч., Гом. Майстэрні—49 ч., Добруская ф-ка—ня прынята ніводнага чалав., „Чырв. Бярэзіна“—12 чал., з іх 4 жанч., „Профінтэрн“—19 чал., з іх 2 жанч. Партпраслойка на паказаных прадпрыемствах на 1|IV-29 г. у сярэднім складае 19,2%, сярод рабочых 31,1%, сярод работніц толькі 8,4%.

Прыведзеныя лічбы сьведчаць аб тым, што практычная работа па вярбоўцы рабочых і асабліва работніц на больш буйных прадпрыемствах у I кв. 29 г. разгортвалася яшчэ слаба. Аб гэтым сьведчаць таксама і наступныя лічбы аб ходзе вярбоўкі рабочых па 40 больш буйных прадпрыемствах БССР за I кв. 29 г. (узяты прадпрыемствы, на якіх ня менш 300 раб.):

| Усяго прадпрыемств. | Лік рабочых на іх | Падана заяў | Прынята | % прынятых да падаўшых заявы | % прынятых да агульнага ліку прынятых за I кв. 29 г. у КПБ рабоч. |
|---|---|---|---|---|---|
| 40 | 27.849 | 852 | 547 | 64,2 | 41,8 |

Па прыведзеным вышэй лічбам рабіць якія-небудзь вывады зараз яшчэ цяжка. Магчыма бязумоўна адзначыць некаторы зрух у шэрагу арганізацый у справе вярбоўкі рабочых у партыю. Але *першыя вынікі ні ў якім разе нельга лічыць выстарчальнымі.* Належнага зруху яшчэ няма. *Асабліва гэта магчыма сказаць адносна такіх*

*арганізацый, як Віцебская і Менская.* Па ўсім арганізацыям яшчэ няма рашучага пералому ў адносінах уцягваньня ў партыю рабочых на найбольш буйных прадпрыемствах, асабліва на тых, дзе значная альбо пераважная колькасьць работніц. Слаба яшчэ ідзе вярбоўка ў партыю батракоў і асабліва батрачак.

Зараз яшчэ немагчыма сказаць, што практычна робіцца на мясцох дзеля таго, каб дабіцца ў бліжэйшы час рашучага пералому ў справе вярбоўкі рабочых. Але па тым матэрыялам, якія да нас паступаюць, магчыма адзначыць, што шэраг парт. арганізацый вельмі марудна раскачваецца. Шэраг парткомаў дагэтуль усё яшчэ абмяжоўваецца агульнымі пастановамі („узмацніць“, „прыняць рашучыя меры“, „зьвярнуць асаблівую ўвагу і г. д.) замест таго, каб арганізаваць практычную дапамогу парт. ячэйкам, асабліва на буйных прадпрыемствах. З гэтым трэба пакончыць зараз-жа,

Лютаўскія пастановы ЦК УсеКП і КПБ вызначылі шэраг практычных мерапрыемстваў па вярбоўцы рабочых у партыю. Мясцовым партарганізацыям неабходна замест дубліраваньня гэтых пастаноў ЦК, узяцца за практычнае правядзеньне іх у жыцьцё. Трэба ўстанавіць сыстэматычны нагляд за ходам вярбоўкі рабочых і батракоў у паасобных раёнах і прадпрыемствах, практычна дапамагчы ў пастаноўцы масавай работы буйных вытворчых ячэек, своечасова падагульваць і папулярызаваць найбольш удалы вопыт паасобных ячэек, якія праяўляюць ініцыятыву ў высоўваньні новых форм і мэтадаў масавай работы.

Сыстэматычна падводзіць і вывучаць вынікі росту паасобных арганізацый з тым, каб своечасова прымаць меры да зьнішчэньня маючыхся недахопаў.

Толькі неаслабная ўвага і напружаная праца ўсіх партарганізацый у галіне вярбоўкі рабочых у партыю сапраўды забясьпечыць своечасовае і поўнае выкананьне дырэктыў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП і XII зьезду КП(б)Б.

**Голант.**

---

# Рост і рэгуляваньне сацыяльнага складу партарганізацыі.

*(Рэчыцкая райпартарганізацыя Гом. акругі).*

Рэчыцкі раён зьяўляецца адным з буйнейшых вясковых раёнаў БССР. У самай Рэчыцы маецца дзьве запалкавыя фабрыкі, завод па вырабу цьвікоў і дроту, фанэрны і лесапільны заводы. Усяго ў раёне налічваецца 26 партячэек, з якіх 6 вытворчых, 6 савецкіх і 14 вясковых.

Умовы для росту арганізацыі ў раёне дазваляюць патрабаваць значных вынікаў у галіне палепшаньня сацыяльнага складу арганізацыі. Якжа расьце арганізацыя?

З канца 1927 г. па май 1929 году ва ўсёй арганізацыі прынята 354 чал. (рост на 62%). Сярод прынятых маецца: рабочых з вытворчасьці—72,05%, сельгасрабочых і батракоў—13,84%, сялян-беднякоў—6,78%, сялян-сераднякоў—4,51% і служачых—2,82%. З агульнага ліку прынятых камсамольцы складаюць—37,85%. Такім чынам за гэты пэрыяд часу павялічыўся рост за кошт рабочых і батракоў і панізіўся процант прыёму служачых.

Ня гледзячы на правільныя суадносіны паміж прыймаемымі па сацыяльнаму становішчу і паніжэньне прыёму служачых, усё-ж трэба адзначыць, што тэмп росту, яго дынаміка зьяўляецца нездавальняючай. Амаль ва ўсіх ячэйках адсутнічае *сыстэматычны* рост. З агульнага ліку ўсіх прынятых амаль 70% падае на вярбоўку ў ленінскія дні. У ячэйцы заводу „Інтэрнацыянал“, дзе маецца 300 рабочых, за год прынята ўсяго 3 чал., а па Артукоўскай сельячэйцы на працягу паўтара год рост зусім адсутнічае.

Ня гледзячы на нармальны процант адсеву ($1^1/_2$—2% мэхан. выбыўш.), усё-ж трэба прызнаць, што якасьць прыймаемых рабочых магла быць шмат лепшай. З усіх прынятых рабочых 40% складаюць некваліфікаваныя і з малым вытворчым стажам (1—3 г.). Гэта не выключае магчымасьці папасьці ў партыю „выпадковым“ людзям. А рабочых з вытворчым стажам у 10 больш гадоў толькі 15% да агульнага ліку прынятых.

Па ўзросту сярод прынятых маецца; 50% да 25 гадоў, 37% да 30 г. і толькі 13% ва ўзросьце звыш 35 г. Гэта гаворыць аб тым, што слаба

прымаюцца кваліфікаваныя рабочыя і рабочыя з вялікім вытворчым стажам.

Прыём у партыю работніц ідзе зусім дрэнна. Асноўнымі прадпрыемствамі, на якіх выкарыстоўваецца запалжаночая праца, зьяўляюцца запалкавыя ф-кі „Днепр“ і „X Кастрычнік“, на якіх жанчыны складаюць звыш 1000 чал. ці 65% усёй рабочай сілы. За першы-ж квартал 1929 г. на гэтых фабрыках прынята ў партыю ўсяго толькі 35 чал., а ўся праслойка камуністак да агульнага ліку работніц раўняецца на „Дняпры“ 5,87%, а на „X Кастрычніку“—9%.

Батракоў і калгасьнікаў вясковымі ячэйкамі ў II-м поўгодзьдзі прынята 31 чал., а ў першым квартале 1929 г.—толькі 10 чал. Адзначаецца ўзмоцненае паслабленьне росту ў вясковых ячэйках, у той час, калі толькі адных батракоў у раёне налічваецца каля 500 чал., з каторых 94 камсамольцы.

Усімі відамі партвучобы фабрычна-гарадзкая арганізацыя абхоплена на 64%, а вясковыя—на 50%. Значная частка новых кандыдатаў у вучобу ня ўцягнута. Кандыдаты недастаткова актыўны ў грамадзкім жыцьці. 30% кандыдатаў, у якіх кандыдацкі тэрмін скончыўся, не пераведзены ў члены партыі.

Беспартыйнага актыву ва ўсе віды вучобы ўцягнута каля 300 чал., з іх рабочых—60%. Гэтыя лічбы гавораць аб значным ахопе беспартыйных партвучобай. Але тут мы маем і вялікія недахопы. Пры кампляктаваньні сеткі школ і гурткоў ячэйкі не зварачваюць належнай увагі да падбору беспартыйных, а таму ў школах ў большасьці выпадкаў амаль няма старых кваліфікаваных рабочых, а ў вёсцы—батракоў і калгасьнікаў. Работа школ і гурткоў ня зьвязваецца з вярбоўкай у партыю, а таму колькасны абхоп партвучобай беспартыйнага актыву не адпавядае тэмпу роста партыі за лік гэтага актыву.

Такім чынам, трэба зрабіць такія вывады: рост за лік рабочых у вытворчых ячэйках і за лік батракоў і калгасьнікаў у вясковых ідзе недастатковым тэмпам. Дырэктывы ліс-тападаўскага пленуму ЦКУсеКП(б) і XII зьездуКП(б)Б слаба пераламляюцца ячэйкамі на практыцы. У ячэйках дрэнна пастаўлена культурна-масавая работа. Большасьць ячэек ня ўмее працаваць з беспартыйным актывам і нават ня ведае яго. Райком ня сумеў сваечасова правяраць свае дырэктывы і вучыць ячэйкі на месцы, як зьліквідаваць недахопы.

### Што трэба зрабіць.

Трэба рашуча зьнішчыць усе недахопы і „летнія“ настроі партячэек; дэтальна падлічыць і пашырыць кола беспартыйнага актыву, наладзіўшы з ім партмасавую работу; дыфэрэнцыраваць работу па асобным відам і формам (паасобныя нарады каапэрацыйнага, вытворчага, прафсаюзнага, савецкага актыву і г. д.).

Арганізаваць летам для беспартыйнага актыву на прадпрыемствах шэраг палітычных гурткоў па вывучэньню пастаноў 16-й партканфэрэнцыі, статуту і праграмы партыі, а таксама гурткоў вытворча-тэхнічных па рацыяналізацыі, арганізацыі працы, па 5-годцы і г. д. Выпуск беспартыйнага актыву з палітшкол скарыстаць у адпаведнай ступені пры прыёме новых кандыдатаў у партыю

Райкому і прадстаўнікам АК трэба асабістым удзелам на мясцох вучыць ячэйкі на жывых прыкладах, як вербаваць у партыю рабочых, работніц, батракоў і калгасьнікаў.

Неабходна, як опыт, увесьці ў практыку работы вытворчых ячэек паведамленьні на рабочых сходах аб ходзе росту за лік рабочых і работніц з папярэднім абгаварэньнем на гэтых сходах тых рабочых, якія падалі заявы аб уступленьні ў партыю.

Вопыт райкому з уцягненьнем батракоў у райпартшколу поўнасьцю сябе апраўдаў: усе батракі, скончыўшы школу, уступілі ў партыю. Трэба

гэты вопыт пашырыць, і для папярэдняй палітпадрыхтоўкі батрацтва і часткі калгасьнікаў арганізаваць спэцыяльныя каротка-тэрміновыя школы-курсы (прыкладна 2 созывы за асеньня-зімні пэрыяд).

Усё-ж, ня гледзячы на цэлы шэраг недахопаў, Рэчыцкая партарганізацыя мае значныя палепшаньні ў сацыяльным складзе: павялічыўся процант жанчын, камсамальцаў, рабочых ад варштату і панізіўся % служачых. Гэта відаць з наступнай таблічкі:

| Дата | Колькасьць ячэек | Колькасьць членаў партыі | | У тым ліку | | | | Сацыяльны склад арганізацыі | | | | | | | | Рабочых ад варштату | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Жанчын | | Членаў КСМ | | Рабочых | | Батракоў і с.-г. рабочых | | Сялян | | Служач. і іншых | | | |
| | | | у % | | у % | | у % | | у % | | у % | | у % | | у % | | у % |
| VIII-27 г. | 24 | 465 чал. | 100 | 53 | 11,18 | 48 | 10,32 | 292 | 62 | 0 | 0 | 110 | 25,42 | 64 | 13 | 185 | 40 |
| 15/IV-29 г. | 26 | 752 „ | 162 | 123 | 16,35 | 109 | 14,49 | 525 | 70 | 49 | 6,5 | 113 | 15,2 | 63 | 8,41 | 419 | 55,75 |

**М. Манжалей.**

---

# Кулакі з партбілетамі.

*(Хоцімская арг., Магілеўскай акругі. Па матар'ялам абсьледваньня).*

Наколькі неабходна і своечасова чыстка партыі, асабліва яе вясковай часткі, можна пацьвердзіць кароткім аналізам сацыяльнага складу і работы Хоцімскай партарганізацыі. Партыя ніколі ня здымала з парадку дня пытаньня якаснага паляпшэньня сваіх шэрагаў. Адначасова вярбоўка ў партыю батракоў, беднякоў і сельска-гаспадарчых рабочых. Партыя ставіла пытаньне ачысткі партарганізацыі ад акулачыўшыхся, разлажыўшыхся ідэолёгічна і маральна элемэнтаў. Бязумоўна, ня ўсе партарганізацыі ў належнай меры займаліся гэтым, надзвычайна важным, пытаньнем. Мы належным чынам ня ведалі і нават ня ведаем да гэтага часу сапраўднага твару некаторых нашых вясковых арганізацый. Мы не займаліся пытаньнем вывучэньня становішча гаспадарак камуністых, не сачылі за тым, як растуць і куды растуць гаспадаркі некаторых камуністых, а таксама, каго мы часта прымаем у партыю. Хоцімская рай-партарганізацыя можа служыць яскравым прыкладам.

У Хоцімскай арганізацыі няма ніводнага батрака і сельгасрабочага, але за тое ёсьць значная частка *заможнікаў і нават кулакоў*. Яны *складаюць да 25%* да камуністых, працуючых на сельскай гаспадарцы. Вось жывыя прыклады:

1) *Земцаў Міхась,*—21 дзесяц. зямлі, 3-е коняй, 7 кароў; бацька яго пазбаўлены права голасу як кулак. У час перавыбараў с/с вёў антысавецкую работу і склікаў падпольны сход заможных, а сын яго, камуніст, сэкратар с/с упарта настаіваў, каб бацьку даць права голасу.

2) *Кавалёў С.*—34 дзесяц., 5 коняй, 4 каровы, 11 шт. дробнай жывёлы, 2 хаты і іншых будынкаў—5.

3) *Майсеенка К.* (служыць лясьніком)—16,5 дзесяц. зямлі да яшчэ 5 дзесяц. службовага надзелу, які ён здае ў арэнду, 4 кані, 2 каровы, 5 дробных жывёл, 2 хаты і 7 розных будынкаў.

Можна яшчэ прывесьці жывыя прыклады, але і гэтага даволі для характарыстыкі сацыяльнага складу арганізацыі.

Выплывае пытаньне: як пралезьлі кулакі ў нашую партыю? На гэта запытаньне можна даць такі адказ. З аднаго боку, клясавы вораг скарыстоўвае ўсе магчымасьці, запаўзаючы ва ўсе шчыліны, каб захаваць сваю кулацкую гаспадарку. Ён добра ўмее маскавацца, то пад відам актыўнага грамадзкага працаўніка, то, паехаўшы часова ў Донбас, пад відам рабочага шахцёра пралазіць у партыю.

Калі сюды яшчэ дабавіць адсутнасьць вучоту сацыяльнага складу ў РК („усе сяляне"), дык становіцца зусім зразумела, чаму гэтыя элемэнты затрымліваюцца падоўгу ў партыі. З другога боку, партарганізацыя не вяла ніякай работы і не падышла блізка да пытаньня калектывізацыі гаспадарак камуністых, іх каапэраваньня, у той час, калі амаль кожны камуніст ці служыў, ці служыць лясьніком, аб'езчыкам, каапэратарам, у с/с і г. далей і, атрымоўваемую пэнсію ўкладаючы ў сваю гаспадарку. А значная частка скарыстоўвае сваё службовае становішча і ўкладае ў сваю гаспадарку сродкі і з другіх крыніц (ільготны лес, крэдыт, палёгкі па налогу і г. д.). Гэтыя моманты спрыяюць значнаму росту некаторых гаспадарак камуністых. Некаторыя ў сваім росьце ўжо дашлі да таго, што могуць лічыцца непрацоўнымі гаспадаркамі (наём рабочай сілы, арэнда зямлі). *Ці забясьпечыла партарганізацыя правядзеньне правідловай клясавай лініі?* Ці забясьпечыла пасьпяховае наступленьне на кулака, ці вядзе барацьбу з правай небясьпекай і прымірэнчымі адносінамі да яе? Гэтых асноўных задач Райпартарганізацыя *не забясьпечыла.* Высоўваньне некаторымі ячэйкамі ў сваіх сьпісах у с/с і каапэрацыю кулакоў (акрамя тых, што маюць партбілет), злодзеяў, дэзэртыраў Чырвонай арміі мела мейсца. Заможная частка ў 1928 г. атрымала крэдыту 9,5%, даюцца палёгкі заможнікам, кіраўнікі с/с партыйцы п'юць разам з кулакамі, у кіруючым складзе с/с і КСУ 13,4% заможнікаў і кулакоў.

Па пытаньням калектывізацыі ня толькі паасобныя камуністыя, але і ўся партарганізацыя не зьяўляецца авангардам масавага руху сялянства. Калгаснае будаўніцтва ў значнай меры ідзе стыхійна бяз удзелу партарганізацыі. Ня трэба зьдзіўляцца і таму, што некаторая частка партыйцаў яўна супроць калектываў. У арганізаваных 1929 г. 12 калгасаў уступіла толькі 2 камуністы, а цяга сярод насельніцтва, асабліва яе бядняцкай часткі, надзвычайна вялікая, але няма належнага кіраўніцтва з боку партарганізацый. Каб падкрэсьліць гэту думку, дастаткова сказаць, што ва ўсім раёне няма ніякіх відаў прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў. Было адно машыннае т-ва і тое развалілася.

Могуць цяпер запытаць—дзе быў Райком і што ён рабіў?

Райком быў і цяпер ёсьць і нават камуністы ня кепскія там сядзяць, але справа ў тым, *што працавалі яны ў большасьці наогул,* у працы *пераважвала дэклярацыйнасьць.* Райком ня знаў сваю арганізацыю, ён не займаўся вывучэньнем сваёй арганізацыі і раёну. Райком не згуртаваў беднаты вакол партыйнай арганізацыі, каб забясьпечыць ажыцьцяўленьне асноўных лёзунгаў партыі, не наладзіў кантролю праз групы беднаты за правядзеньнем правідловай пралетарскай клясавай лініі ў с/с, каапэрацыі і іншых установах. Уся праца з беднатою абмяжоўвалася скліканьнем сходаў пры правядзеньні розных кампаній. На работу груп беднаты ніякай увагі не зварачвалася і таму з 6 груп, меўшыхся ў раёне, ніводная не працавала. Бедната і батракі ў партыю ня ішлі. РК замест таго, каб канкрэтна распрацаваць разам з ячэйкамі пытаньне росту за кошт батракоў і беднаты, прыняў на пашыраным Пленуме зусім неканкрэтную, непрыстасованую да ўмоў раёну рэзалюцыю і даў зусім неправідловую ўстаноўку:—

*„Рост сацыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы павінен ісьці паралельна росту батрацкага ядра ў партыі“...*

Гэта яшчэ раз падкрэсьлівае няўважлівыя адносіны як да пісаньня рэзалюцый, так і да самай працы.

Адгэтуль можна зрабіць некаторыя вывады. Апрача таго, што трэба ачысьціць арганізацыю ад акулачыўшыхся элемэнтаў, якія ажыцьцяўляюць зусім не партыйны, адхілены партыяй, лёзунг „абагашчайцеся“ і „мірна хочуць урастаць кулакамі ў сацыялізм“,—трэба таксама паставіць пытаньне, што АК кепска вядаюць работу сваіх арганізацый і работнікаў, працуючых у раёнах, яны далёка недастаткова кіруюць работай вясковых арганізацый, не сыгналізуюць сваечасова аб тэй канкрэтнай небясьпецы, якая выплывае з асабістых умоў кожнай арганізацыі.

Трэба падыйсьці блізка да калектывізацыі гаспадарак камуністых, згодна пастанове XI Зьезду УсеКП: „Удзел камуністаў у сельска-гаспадарчых каапэратывах і калектывах свайго раёну абавязковы. Таксама абавязковы для іх пачын стварэньня такіх арганізацый, калі іх ня маецца“.

Мне здаецца, што гэта пастанова абавязкова для камуніста і ня толькі таго, хто непасрэдна працуе ў сельскай гаспадарцы, а і тых камуністых, якія служаць, але маюць сваю гаспадарку. Бо мы бачым, што нават кіраўнікі акруговых і цэнтральных устаноў, маючыя гаспадарку на вёсцы, нічога ня робяць, каб калектывізаваць яе. Трэба больш сур'ёзна заняцца падборам людзей, і іх перападрыхтоўкай як тэорэтычнай, так і практычнай.

**Д. Ваўковіч.**

---

# Будні партработы ў цэху.

*(г. Барысаў, гута „Донбаль“).*

На нарадах у ЦК, у друку, у партыйных камітэтах шырока абгаварваецца пытаньне аб працы ў цэху. Ёсьць шмат карысных пастаноў і інструкцый па гэтаму пытаньню. Але прыглядаючыся да штодзеннай работы цэх'ячэек некаторых прадпрыемстваў, можна заўважыць, што гэтыя дырэктывы яшчэ далёка не праводзяцца ў практычнай рабоце.

Як прыклад можна прывесьці гуту „Домбаль“. Цэх'ячэйка № 2, якая ахоплівае 330 рабочых, аб'ядnae 55 партыйцаў. Такім чынам па разьмерам працы яна знаходзіцца ва ўмовах сярэдняга прадпрыемства Беларусі.

## „На чале“ гаспадарчага будаўніцтва.

З 330-ці рабочых вытворчую нараду ў цэху наведвае ад 10 да 15 чал., а з 55-ці камуністых—ад 2-х да 4-х чал. У апошнія тры месяцы вытворчая нарада ня зьбіралася. Прычыны? Праводзілі агляд вытворчых нарад, і вытворчая камісія лічыла, што зараз уся адказнасьць за працу ўскладаецца на сматравую камісію і таму нарады ня зьбіралі. Пасьля склалі штаб па правядзеньню сацыялістычнага спаборніцтва і зноў гэта праца пашла міма вытворчай нарады. Затым праводзілі перавыбары заўкому. Адным словам, калі паслухаць кіраўнікоў ячэйкі, то выходзіць, што ніяк ня можна было ажывіць вытворчую нараду, бо кожная кампанія яе забівала.

Сматравая камісія сабрала 40 прапаноў рабочых аб паляпшэньні працы нарады і вытворчасьці наогул. Прапановы здалі ў заўком, потым іх нехта згубіў і тым справа скончылася. Ужо ў маі месяцы здолелі ізноў сабраць нараду. Сабралася 15 рабочых, у тым ліку 5 партыйцаў, але партыйцы ня ўседзелі,—пакруціліся і пайшлі. Засталося толькі 2 партыйца. Тады ўстае беспартыйны рабочы і заяўляе: „Што вы нам талкуеце пра сацы-

ялістычнае спаборніцтва! А дзе-ж вашы камуністы? Навакол каго мы павінны групавацца? Айда дахаты!" Ледзь удалося выратаваць нараду ад такога настрою. Што яшчэ можна сказаць аб „кіраўніцтве" цэхячэйкі вытворчым жыцьцём? Як кажуць, камэнтары лішні.

**Першы—у кіно і апошні—на сход.**

Партыйцы слаба наведваюць усялякія сходы і пасяджэньні. Камсамольцы яшчэ горш. Сэкратар ячэйкі скардзіцца: „Як толькі трэба склікаць партсходку, дык адразу высьвятляецца, што той захварэў—у амбуляторыю пайшоў, той неабходна бялізну пасьціраць, а іншыя зусім без тлумачэньняў дамоў пайшлі. На сход зьбіраецца 50—60% камуністых, ня гледзячы на тое, што сходы зьбіраюцца на заводзе, адразу пасьля работы".

Яшчэ горш зьяўляюцца на прафсаюзныя сходы. Маюцца факты, калі беспартыйныя дэлегаты, запрашаючы партыйцаў на сход рабочых, атрымлівалі такі адказ: „На сход не пайду, бо мы ўжо гэтае пытаньне вырашалі на сходзе партячэйкі".

Некаторых партыйцаў у прафсаюзнай рабоце адзін партыец характарызуе так: „На сходы прыходзяць апошнімі з мэтай папасьці першымі ў кіно, якое наладжваецца пасьля сходу". І вось, ці дзіва пасьля такіх фактаў, што беспартыйны актывіст так адказвае партыйцу на агітацыю аб уступленьні ў партыю: „Ты раней пакажы, што партыец лепшы за беспартыйнага, і тады ў партыю запрашай. Вось, глядзі, ты ні разу ня ходзіш на сходы рабочых—я хаджу акуратна, ты можа раз у год бываеш на вытворчай нарадзе, а я—актыўны удзельнік яе. Я кожны дзень газэту чытаю, а ты мо' раз у тыдзень, а можа і радзей. Выпіваем мы аднолькава. Чым-жа ты лепш за мяне, хаця ты і член партыі?".

І папрабуй даць на гэткае запытаньне здавальняючы адказ!

**Дзе-ж самастойная работа цэх'ячэйкі.**

Усе пастановы аб тым, каб надаць больш правоў і самастойнасьці цэх'ячэйцы, яшчэ да мейсца не дакаціліся. Вось намеціла цэх'ячэйка правесьці за тры месяцы 48 гутарак у цэху, а правяла 16. Чаму? Парткалектыў ня даў пляну і ня вылучыў людзей для правядзеньня гутарак. Цэх'ячэйка ня кіруе грамадзкімі арганізацыямі, бо яны існуюць толькі ў агульна-заводзкім маштабе.

Гаспадарнік намячае праводзіць важныя мерапрыемствы ў цэху і ўзгадняе іх толькі з партбюро колектыву, абходзячы цэх'ячэйку.

Дырэктар загружаецца дробязямі і ня можа кіраваць усім прадпрыемствам. Прафупаўнаважаны ў цэху маецца, але ўсе справы вырашаюцца непасрэдна ў заўкоме, а прафупаўнаважаны па сутнасьці ўпаўнаважан толькі выклеіць аб'яву і г. д.

Што-ж пры такіх умовах можа зрабіць цэх'ячэйка?

**Жыцьцё вымагае напружанай працы.**

Між тым гэтыя шматлікія недахопы вымагаюць напружанай працы. Возьмем сыстэму аплаты працы ў цэху. Яна існуе „спрадвеку". Бяз зьмен. Працуе група ў 4 чалавекі. Па сутнасьці кожны выконвае аднолькавую работу, а аплата праводзіцца так. Група атрымоўвае 256 руб. у месяц (бярэцца сярэдняя сума). З гэтай сумы адзін з групы, так званы майстар, атрымоўвае 139 руб., а астатнія (падсобнікі) уж разам 117 руб. Чаму? „Так ужо даўно заведзена, спрадвеку",—даецца адказ.

*Кіраўніцтва камсамолам* з боку парт'ячэйкі існуе толькі на паперы і таму наглядаецца шэраг адмоўных зьявішч. Так, калі пачынаецца гутарка ў цэху, камсамолец лічыць ніжэй свайго гонару ўдзельнічаць у ёй. Камсамольцы зьбіраюцца гуртком, гамоняць і перашкаджаюць гутарцы.

За апошнія 6 месяцаў ніводзін камсамолец не падаў заявы аб уступленьні ў партыю, а камсамольцы, раней прынятыя ў кандыдаты партыі, ня лічуць патрэбным падаваць заяў аб пераводзе іх у члены партыі і замест 6-ці месяцаў сядзяць у кандыдатах па паўтара—два гады.

У ячэйцы няма вучоту беспартыйнага актыву. Па тлумачэньню сэкратара прычына гэтаму тое, што нехта згубіў сьпісы, якія раней былі складзены.

*Групоргі існуюць, але больш на паперы чым на справе.* Аб партгрупах толькі зараз пачалі гутарыць, але яшчэ нічога не аформлена, не адчуваецца практычнай працы.

Хвасьцізм сярод шэрагу партыйцаў шырока праяўляецца. Няма пачуцьця адказнасьці за правядзеньне ў жыцьцё партыйнай лініі і партыйных пастаноў. Вось прыклад. Прыходзяць перавыбары заўкому. Асобныя рабочыя высоўваюць кандыдатуру рабочага Б., вядомага п'яніцу, прогульшчыка і „абаронцу" інтарэсаў рабочых. І вось, апрача сэкратара парткалектыву і яшчэ аднаго актывістага, ніхто з камуністаў ня лічыць сваім абавязкам выступіць з адводам супроць гэтага кандыдата. „Як я магу супроць выступаць, калі ён каля мяне жыве, сусед, можна сказаць... што, мне ворагаў нажываць?"

Ячэйка фактычна не пачала падрыхтоўкі да правядзеньня чысткі партыі і савецкага апарату, не з'арганізавала вакол гэтага пытаньня грамадзкай думкі рабочых і саміх партыйцаў.

### Вынікі.

Вынікі ўсяго гэтага яскравы. Яны сьведчаць аб тым, што пастанова апошняй аргнарады, пастановы ЦК аб паляпшэньні працы ў цэху яшчэ не знайшлі канкрэтнага пераламленьня на справе. Больш таго, большасьць сэкратароў і членаў бюро цэх'ячэек аб сутнасьці гэтых пастаноў яшчэ ня ведаюць. Гэта можа быць зьліквідавана пры ўзмацненьні канкрэтнага, жывога кіраўніцтва.

**М. Шапіра.**

# У ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе падрыхтоўчай работы па праверцы і чыстцы партыі.

*(Пастанова бюро ЦК і Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б ад 13/V 29 г.).*

1. Адзначыць, што, не зважаючы на праведзеную работу па растлумачэньні і падрыхтоўцы да праверкі і чысткі партыі, усё-ж на мясцох ёсьць рад выпадкаў скажэньня і неразуменьня прынцыповай і ідэйнай установак па праверцы і чыстцы партыі, а таксама ў радзе месц слаба практычная работа парторганізацый па падрыхтоўцы да праверкі і чысткі партыі, імення:

а) У шмат выпадках характарыстыкі складзены РК КП(б)Б аб працы і становішчы ў ячэйцы зусім нездавальняюча, не даюць магчымасьці судзіць аб працы парт. ячэйкі.

б) Частыя выпадкі боязьні адкрытых ячэйковых сходаў па пытаньнях аб праверцы і чыстцы партыі, у сувязі з чым у некаторых мясцох праводзіліся закрытыя сходы.

в) Наглядаюцца на мясцох выпадкі падыходу да ацэнкі камуністага не як ён праводзіць лінію партыі, а нярэдка выяўляецца склочніцтва, мяшчанства, што скажае прынцыповую ўстаноўку партыі па праверцы і чыстцы партыі.

г) Недастатковая ўвага з боку АК па падрыхтоўцы да чысткі партыі і амаль што адсутнічаньне з іх боку кантролю праверкі правядзеньня гэтай работы Райкомамі КП(б)Б і ячэйкамі.

д) Адсутнасьць сыстэматычнага асьвятленьня ў друку ходу падрыхтоўчых работ і мабілізацыі партыйнай масы і рабочае клясы вакол праверкі і чысткі партыі.

Усё гэта кажа аб тым, што на мясцох ня было дастатковай сур'ёзнай растлумачальнай і падрыхтоўчай работы, недастаткова мабілізацыя ўсёй партыйнай масы і рабочай клясы вакол праверкі і чысткі партыі.

2. Абавязаць зараз-жа ўсе АК і АКК КП(б)Б мабілізаваць неабходныя сілы і накіраваць для ўзмацненьня падрыхтоўчай работы ў першую чаргу на вёсцы і там, дзе слаба гэта работа была праведзена, устанавіць сыстэматычную праверку з боку АК, як на мясцох гэта работа праводзіцца.

Тым ячэйкам і арганізацыям, дзе было дапушчана скажэньне правільнай пастаноўкі

праверкі і чысткі партыі і дапушчана склочніцтва і г. д., ужыць захады да растлумачэньня і выпраўленьня дапушчаных памылак.

Абавязаць усе АК зараз праверыць якасьць складаемых РК характарыстык ячэек і ўжыць захады, каб складаемыя характарыстыкі сапраўды адбівалі работу і становішча ячэйкі.

3. Абавязаць усе АК разам з АКК КП(б)Б усіх членаў праверкомаў аслабаніць цяпер-жа ад партыйнай і іншай грамадзкай нагрузкі, забясьпечыўшы ім магчымасьць падрыхтавацца да работы па праверцы і чыстцы партыі, адначасова ўжыўшы захады, каб члены праверкомаў, пасылаемыя для праверкі і чысткі партыі, былі сваечасова аслабанены ад работы.

Абавязаць АК і РК КП(б)Б зараз-жа мабілізаваць для праверкомаў у парадку грамадзкай нагрузкі тэхнічных работнікаў; АКК забясьпечыць дастатковае іх інструктаваньне.

4. Правесьці па ўсіх акругах падрыхтоўку адабраных таварышоў у праверкомы сіламі ЦК і ЦКК шляхам арганізацыі курсаў (вывучэньне пастаноў 16 партканфэрэнцыі, інструкцыі аб праверцы і чыстцы і г. д.) з такім разьлікам, каб гэта работа была скончана да пачатку чысткі вясковых арганізацый.

5. Праверку і чыстку КП(б)Б пачаць: вайсковых партарганізацый з 25 мая, скончыць да 1-га чэрвеня; вясковых партарганізацый пачаць з 10-га чэрвеня і скончыць да 1-га жніўня; з 15-га жніўня пачаць чыстку савецкіх ячэек, па сканчэньні іх—вузаўскіх, рабочых і пагранічнай варты.

Усім АК і АКК, выходзячы з гэтага, скласьці плян работы па праверцы і чыстцы партыі і прадставіць ЦКК не пазьней 1-га чэрвеня.

6. Прыступіць зараз-жа да праверкі ўсіх членаў бюро АК і Прэзыдыуму АКК і роўных ім армейскіх арганізацый.

7. Абавязаць цэнтральныя газэты штодня да пачатку праверкі і чысткі партыі, так і ў часе чысткі асьвятляць ход гэтае работы, мабілізуючы як партыйную масу, так і рабочую клясу. Абавязаць усе АК ужыць захады да ўзмацненьня работы ў гэтым напрамку мясцовых і насьценных газэт.

---

## Аб ходзе падрыхтоўкі да чысткі савецкага апарату.

*(Пастанова Бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б ад 13/V—29 г.).*

1. Адзначаючы правядзеньне значнай працы па растлумачэньню шырокім масам задач чысткі апарату, прыцягненьню пралетарскіх кадраў да ўдзелу ў практычнай працы па падрыхтоўцы да чысткі апарату (рабочыя брыгады, сэкцыі РСІ, лёгкая кавалерыя і г. д.). Бюро ЦК у той-жа час указвае на наступныя недахопы:

а) падрыхтоўка і падбор матар'ялаў да чысткі ня ўвязваюцца з недахопамі і хваравітымі зьявішчамі ў апараце, а носяць характар падбору матар'ялаў, галоўным чынам, асьвятляючых сацыяльнае паходжаньне, альбо асобныя праступкі працаўнікоў апарату. Не вывучаецца характар і якасьць работы як апарату ў цэлым, так і асобных яго працаўнікоў, што выклікае апасьлівасьць за вынікі чысткі і можа даць магчымасьць астаўленьня ў апараце асоб, якія праводзяць клясава-варожую нам лінію;

б) слабы ўдзел у падрыхтоўцы да чысткі парткомаў (АК і РК) выканкому (АВК, РВК, Гарсавет), саміх кіраўнікоў устаноў, камісій садзейнічаньня. Адсутнічае сыстэматычнае кіраўніцтва гэтай справай з боку ячэек КП(б)Б;

в) недастаткова ўцягнуты ў працу па выяўленьню недахопаў якасьці працы апарату, як працоўных, якія датыкаюцца з апаратам, так і самых служачых;

г) не ўважаючы на даныя сваечасова дырэктывы з боку Бюро ЦК і Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б, парткомамі, прафорганамі і кіраўнікамі ўстаноў работа па вылучэньню і падрыхтоўцы замены, за рэдкімі выключэньнямі (Саюз Саўгандальслужачых і С.-Г. Лес. рабочых), зусім не пастаўлена.

2. ЦК звярачвае ўвагу парткамітэтаў, фракцыі выканкомаў, прафсаюзаў і кіраўнікоў устаноў на неабходнасьць больш актыўнага ўдзелу ў падрыхтоўцы да чысткі, увязкі работы па праверцы асабовага складу ўстаноў з выяўленьнем недахопаў і хваравітых зьявішч у самым апараце, мабілізуючы вакол гэтай задачы ўвагу ўсіх працоўных, у максымальнай меры забясьпечыўшы іх удзел у справе палепшаньня якасьці працы апарату.

Зьвярнуць увагу ячэек КП(б)Б правяраемых устаноў на неабходнасьць штодзеннага і сыстэматычнага кіраўніцтва справай падрыхтоўкі да чысткі савецкага апарату.

3. Лічыць неабходнай арганізацыю агляду ўстаноў, падлеглых чыстцы. Агляд павінен праводзіцца як у прэсе, насьценных газэтах, так і на сходах служачых, з удзелам працоўных.

Агляд устаноў павінен паслужыць штуршком для ўцягненьня мас у крытыку і праверку работы савецкага апарату і к выяўленьню момантаў правядзеньня няправільнай клясавай лініі, да ацэнкі па сутнасьці працы як апарату ў цэлым, так і паасобных асоб, адказных за тыя ці іншыя вучасткі працы.

4. Улічваючы значную складанасьць гэтай работы, а таксама немагчымасьць для органаў КК—РСІ ахапіць сваім арганізацыйным кіраўніцтвам значную колькасьць выбраных у рабочыя брыгады працоўных, — прапанаваць АК вылучыць у дапамогу КК—РСІ дастатковую колькасьць працаўнікоў, вызваліўшы іх на пэўны тэрмін ад усякай іншай работы.

5. Надаючы вялікае значэньне пытаньню падрыхтоўкі замены, як важнай умове ў справе правядзеньня чысткі апарату, лічыць неабходным:

а) Абавязаць „камісіі садзейнічаньня" пад адказнасьцю кіраўнікоў устаноў у 7-мітыднёвы тэрмін на падставе папярэдніх даных аб засьмечанасьці свайго апарату, вызначыць

(арыентыровачна) патрэбную колькасьць людзей для замены і паведаміць аб гэтым (з указаньнем характару работы) у суадпаведныя профсаюзы і парткамітэты.

Адначасова кіраўнікам устаноў ужыць адпаведныя захады для забесьпячэньня сабе замены, дагаварыўшыся аб гэтым з адпаведнымі проф. і парткамітэтамі.

б) Фракцыям профсаюзаў, выканкомаў, саветаў, РСІ, Жанаддзелу і комсамолу ўважліва вывучыць склад рабочага актыву па сваіх лініях (працаўнікоў вытворчых, кантрольных і інш. камісій на прадпрыемствах, найбольш актыўных, здольных і стойкіх членаў сэкцый саветаў, лёгкіх кавалерыстаў, удзельнікаў абсьледваньня, самаахвотнікаў бюро скаргаў, больш актыўных дэлегатак, коопэр. актыву і інш.), азначыўшы магчымасьць вылучэньня іх, правесьці вучот гэтых вылучэнцаў, паведамляючы аб гэтым у адпаведныя парткамітэты, якія сумесна з прафсаюзамі складаюць арыентыровачныя пляны замены. Адначасова зьвярнуць увагу на прасоўваньне на работу безработнага кам. складу запасу і на правільнае скарыстаньне моладзі, якая канчае розныя школы.

в) Абавязаць праверачныя камісіі ў часе чысткі азначыць магчымасьць вылучэньня ў кожную правяраемую ўстанову з канкрэтнымі ўказаньнямі пасад, якія належыць замяшчаць вылучэнцамі.

г) Даручыць АПАД у тыднёвы тэрмін распрацаваць канкрэтны плян арганізацыі падрыхтоўкі (курсы, курсы-зьезды, спэцыяльныя гурткі, прыцягненьне ў розныя існуючыя школы, курсы і інш.) для вылучэнца і замены наогул.

д) Даручыць парткалегіі ЦКК прыцягнуць да адказнасьці асоб, ня выканаўшых ранейшых дырэктыў ЦК і ЦКК-РСІ па пытаньню падрыхтоўкі замены да чысткі апарату.

6. Пацьвердзіць тэрмін пачатку чысткі з 25 мая, пачынаючы з Біржы працы (у тым ліку і належачых да чысткі беспрацоўных) і органаў статыстыкі.

## Аб выкарыстаньні камвузаўцаў і слухачоў-партыйцаў іншых вышэйшых навучальных устаноў.

*(Пастанова ЦК ад 16/V 1929 г.).*

Даручыць Акругкомам арганізаваць работу па найбольш мэтазгоднаму і поўнаму выкарыстаньню камвузаўцаў і партыйцаў-вузаўцаў у першую чаргу па лініі масавай культурнай і партыйна-выхаваўчай работы на прадпрыемствах і на вёсцы.

Дзеля гэтай мэты АК і РК сваечасова ўлічыць усе магчымасьці для выкарыстаньня партыйцаў ВУЗ'аўцаў на партыйнай, прафэсыянальнай і вясковай палітасьветрабоце як у парадку платнай работы, так і ў парадку прыцягненьня іх да выкананьня партыйна-грамадзкай работы.

Пры правядзеньні гэтай работы асобна ўлічыць запатрабаваньні на партыйных і культ. працаўнікоў з боку розных сэзонных і будаўнічых работ.

Арг. аддзелу і АПАД ЦК высьветліць пытаньне аб ліку камвузаўцаў, якіх неабходна замацаваць за ЦК для партыйнай і выкладчай работы на курсах. Гэта рашэньне не распаўсюджваецца на другі і трэці курсы Камвузу Беларусі.

# У ПАРТЫЙНЫХ КАМІТЭТАХ

## Аршанскі АК.

### Мерапрыемствы па ўзмацненьню вярбоўкі батракоў у партыю.

Аршанскі АК, у мэтах узмацненьня вярбоўкі батракоў у партыю, прапанаваў РК і ячэйкам: практыкаваць асабовыя запрашаньні батракоў і батрачак на парт. сходы; рэгулярна праводзіць канфэрэнцыі і сходы батрацкага актыву па паасобных сяленьнях, дзе маецца шмат батракоў, а таксама і па раёнах; вылучыць партарганізатараў у тых пунктах, дзе маецца кампактная маса батракоў альбо батрачак; прымацоўваць асобных партыйцаў да батракоў і сельгасрабочых, якія падаюць заявы аб жаданьні ўступіць у партыю, але ня маюць рэкамэндацый, з мэтаю азнаямленьня з імі і дачы рэкамэндацый. АК таксама прапанаваў саюзу с.-г. рабочых праводзіць узмоцненую падрыхтоўку батрацкага актыву праз розныя курсы профактыву, трактарыстых і г. д. РК КПБ прапанавана прыступіць да практычнага ажыцьцяўленьня пастановы зьезду аб арганізацыі ячэек ці кандыдацкіх груп ва ўсіх саўгасах. Даручана Аргаддзелу на працягу бліжэйшых 2-х месяцаў праверыць выкананьне гэтай дырэктывы.

### Работа з рабселькорамі.

У зьвязку з ліквідацыяй акруговай газэты „Кам. Шлях", за апошні час аслабла работа з рабселькорамі і высьвятленьне ў друку гаспадарчага і культурнага жыцьця Аршаншчыны. Выходзячы з гэтага, АК намеціў шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьню працы з рабселькорамі. Усім РК КПБ прапанавана правесьці нарады рабселькораў і рэдкалегій насьценгазэт і практыкаваць у далейшым скліканьне райнарад рабселькораў у плянавым парадку ня менш 2-х разоў у год



(перад вясеньняй сяўбой і пасьля збору ўраджаю). РК і ячэйкам прапанавана палепшыць кіраўніцтва насьценгазэтамі праз заслухоўваньне дакладаў партчасткі рэдкалегій і скліканьне нарад рэдкалегій, правядзеньне раённых выставак насьценгазэт (прыстасоўваючы апошнія да райнарад рабселькораў), правядзеньне рэгулярных (раз у месяц) сходаў рабселькораў пры насьценгазэтах для абгаварэньня пытаньняў якасьці зьместу газэт, асьвятленьня важнейшых кампаній. У агульную працу гурткоў рабселькораў АК рэкамэндаваў уцягваць таксама гурткі чытачоў часопісі „Бел. раб. і сялянка". У горадзе АК прызнаў неабходным праводзіць нарады рабселькораў і рэдкалегій насьценгазэт па тыпам насьценгазэт (вытворчых прадпрыемстваў, савецкіх устаноў, вайсковых, юнацкіх і г. д.); пэрыядычна праводзіць агляд паасобных тыпаў насьценгазэт. Для кансультацыі і дачы рэцэнзій насьценгазэтам, гурткам рабселькораў і г. д. АК прызнаў неабходным арганізаваць пры АПА-габінэце спэц. кансультац. бюро.

АПА АК даручана правесьці нараду кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў разам з рэдкалегіямі насьценгазэт па пытаньням узмацненьня інфармацыі ў друку аб культурнагаспадарчым будаўніцтве акругі і аб узаемаадносінах паміж адміністратарамі і насьценгазэтамі. Паміж іншым, АК прызнаў нямэтазгодным выданьне агульна-гарадзкой насьценгазэты.

## Магілеўскі АК.

### Арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы.

Магілеўскі АК, у парадку практычнага выкананьня пастаноў XVI-й партканфэрэнцыі УсеКП(б), зьвярнуўся да ўсіх РК КПБ і парт'ячэек, фракцый саюзу РЗЛ і каапэрацыйных устаноў з прапановай распачаць з 15/V разгортваньне масавага сацыялістычнага спаборніцтва паміж саўгасамі, калгасамі, каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі, вёскамі і раёнамі. АК распрацаваў прыкладны плян правядзеньня спаборніцтва, у якім, выходзячы з пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі акругі, вызначыў канкрэтныя задачы спаборніцтва як па паасобным галінам сельска-гаспадарчага будаўніцтва (земляўпарадкаваньне, мэліарацыя, лесаўпарадкаваньне, агракульт. работа), так і паміж саўгасамі, калгасамі і паасобнымі відамі с.-г. каапэрацыі.

РК КП(б)Б і фракцыям каапэр. арганізацый прапанавана на падставе пляну АК скласьці, выходзячы з мясцовых умоў, свае пляны. РК і ячэйкам КПБ прапанавана разгарнуць растлумачальную работу, сыстэматычна правяраць ход спаборніцтва, абгаварваючы гэтае пытаньне на адчыненых сходах ячэек КПБ і КСМ, на сходах рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і агульных бядняцка-серадняцкіх сходах; арганізаваць шырокае высьвятленьне хода спаборніцтва ў цэнтральных, акруговай і насьценных газэтах.

АК ЛКСМБ і Акрпрафбюро прапанавана даць паказаньні па сваёй лініі аб удзеле арганізацыі КСМ і прафсаюзаў у сац. спаборніцтве на вёсцы. Вясковаму аддзелу АК даручана пэрыядычна правяраць ход спаборніцтва і да 1-га кастрычніка г. г. далажыць Бюро АК аб ходзе спаборніцтва.

## Віцебскі АК.

### Адзінае вясновае камплектаваньне сеткі партвучобы на будучы год.

Віцебскі АК намеціў правесьці адзінае вясновае камплектаваньне сеткі партвучобы на будучы год. У зьвязку з тым што гэта першы вопыт, АК прызнаў неабходным адзінае камплектаваньне зараз правесьці толькі на буйных прадпрыемствах гораду, у некаторых раёнах, у райцэнтрах, саўгасах, калгасах і мястэчках, з тым, каб на вопыце гэтага камплектаваньня правесьці і ў астатняй частцы партарганізацыі адзінае асеньняе камплектаваньне.

Задачы адзінага камкплетаваньня наступныя растлумачэньне магчымых форм вучобы будучага году і яе зьместу, дабраахвотнасьць запіс-апрос, праверка адпаведнасьці запісаўшыхся абранай ім праграме і складаньне арыентыровачнага сьпісу слухачоў школ і гурткоў.

Практычна праца будзе праводзіцца наступным чынам: Пры АПА АК, РК КПБ і парткалектывах буйных прадпрыемстваў ствараюцца камплектовачныя камісіі з прадстаўнікоў партворганаў, Жанаддзелу, КСМ, прафсаюзаў, палітасьветы і г. д. у абавязак якіх уваходзіць вызначэньне рэальна-магчымае сеткі вучобы па ўсіх галінах (парт., камсамольскай, прафсаюзнай і г. д.), падрыхтоўка прапагандыстых, кансультантаў, рэцэнзэнтаў і кадраў вярбоўшчыкаў на прадпрыемствах і ўстановах; афармленьне складу школ і гурткоў і разьмеркаваньне прапагандыстых. Вярбоўка і запіс павінны ахапіць увесь партактыў, сяброў і кандыдатаў партыі, беспартыйны рабочы актыў, актыў батракоў і с.-г. рабочых, калгасьнікаў, бядняцкі актыў і перадавы серадняцкі актыў.

АК і ячэйкам прапанавана зараз-жа разгарнуць шырокую растлумачальную работу, скарыстоўваючы для гэтага партсходы, сходы рабочых і с.-г. рабочых, беднаты, калгасьнікаў, друк і насьценгазэты, арганізуючы спэцыяльныя вечары прапаганды вучобы ў клюбах, хатах-чытальнях, чырвоных куткох і г. д.

АПА АК даручана надрукаваць плякаты аб усіх відах і формах палітадукацыі з кароткім паказаньнем праграм і разаслаць гэтыя плякаты па ўсіх прадпрыемствах, саўгасах, калгасах, установах і раёнах. Для абгаварэньня ўсіх пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем адзінага вясновага камплектаваньня, АПА АК будзе праведзена шырокая нарада загадчыкаў, кіраўнікоў і прапагандыстых усіх школ і гурткоў, дэлегацкіх сходаў, працаўнікоў па ўсіх галінах палітасьветы, апоргаў, РК і ячэек КПБ і КСМ. Такія-ж нарады будуць праведзены кожным РК паасобку.

У ліпені намечана правесьці для падвядзеньня першых вынікаў і намячэньня далейшых мерапрыемстваў акруговую нараду апоргаў РК КПБ і КСМ і інспэктароў палітасьветы.

# З ПРАКТЫКІ ПРАЦЫ МЯСЦОВЫХ ПАРТАРГАНІЗАЦЫЙ

## Становішча працы фракцый непартыйных арганізацый.

(*Гомельская акруга*).

Гомельскім АК праведзена абсьледваньне становішча работы фракцый 16 непартыйных арганізацый. Абсьледваньне выявіла, што ў шэрагу арганізацый фракцый зусім ня існуе, ня глед зячы на наяўнасьць дастатковай колькасьці камуністых. Асабліва гэта датычыцца с/с.

З 7 абсьледваных сельсаветаў фракцыя арганізавана толькі пры даным с/с, у той час, калі па ўсіх гэтых сельсаветах маецца больш 3 камуністых. Адсутнасьць фракцый выклікае моманты недагаворанасьці, разнабойнага выступленьня камуністых на пасяджэньнях непартыйных органаў. Характарна адзначыць, што амаль усе сэкратары ячэек пры абсьледваных с/с і камуністыя, работнікі гэтых с/с, заяўлялі, што зусім ня ведалі аб неабходнасьці стварэньня фракцый пры с/с, паколькі пры гэтых с/с існуюць партячэйкі.

У працы існуючых фракцый, абсьледваньне выявіла шэраг буйных недахопаў. Работа фракцыі ў большасьці носіць няплянавы характар. Зьмест працы зусім нездавальняючы. У большасьці фракцыі разглядаюць дробязныя, не прынцыповыя пытаньні (пэрсанальныя, нязначныя, асабістыя спрэчкі, выдача дапамогі, устанаўленьне ставак і г. д.).

Фракцыя Хойнікскага РВК разглядае, напрыклад, такія пытаньні: аб замене каня, аб пабудове тратавараў, аб пасылцы фурмана на работу, аб выдачы гарантыі на крэдыт у 45 руб. члену РВК і г. д.

Адсутнічае ініцыятыва фракцыі ў прапрацоўцы асноўных партдырэктыў па пытаньням працы данага органу, альбо ўстановы і высоўваньні паасобных пытаньнаў перад адпаведнымі парторганамі. Так, напрыклад, фракцыі РВК зусім не займаліся пытаньнямі паляпшэньня работы апарату, калектывізацыі с/г, падняцьця ўраджайнасьці, прынцыпаў разьмеркаваньня крэдытаў і г. д. Фракцыі прафорганаў не займаліся пытаньнямі падняцьця прафдысцыпліны, вытворчасьці працы і г. д. Сэкратар фракцыі аднаго саюзу нават заявіў, што гэтыя пытаньні па яго думцы не прынцыповыя і іх не патрэбна абгаварваць на фракцыі. Прынцыповымі-ж ён лічыць толькі пытаньні пэрсанальнага парадку.

Унутры-партыйная дэмакратыя ў рабоце фракцыі разгорнута слаба. У большасьці фракцый адказныя сэкратары не абіраюцца фракцыяй, а мэханічна гэтыя пасады займаюцца кіраўнікамі ўстановы. У працу фракцыі слаба ўцягваюцца члены фракцыі, пастановы і дырэктывы парторганаў не даводзяцца да ведама членаў фракцыі, а прыймаюцца „да ведама“ сэкратарамі фракцыі. Фракцыі пленумаў у большасьці не працуюць, а пытаньні разьвязваюцца фракцыямі прэзыдыумаў. Няма справаздачнасьці сэкратароў і бюро перад фракцыяй.

У арганізацыйнай пабудове фракцый маецца скажэньне: уключэньне ў фракцыі кандыдатаў партыі і камсамольцаў, непасрэдныя зносіны паміж фракцыямі і г. д. Выяўлены выпадкі замазваньня парт. твару фракцый, баязьні адкрыта выступаць ад імя фракцый на пленумах, калі большасьць членаў данага органу беспартыйная.

Кіраўніцтва фракцыямі з боку РК і ячэек у частцы іх унутранага жыцьця, інструктаваньня і праверкі зьместу іх працы і выкананьня імі дырэктыў у большасьці зусім слабае. Частка РК і ячэйкі непасрэдна разьвязваюць пытаньні, якія павінны разьвязвацца фракцыямі, перашкаджаючы такім чынам разгортваньню належнай ініцыятывы фрак-

цый. Маюць месца выпадкі мелкай апекі.

АК КП(б)Б на падставе матар'ялаў абсьледваньня даў шэраг указаньняў аб паляпшэньні работы фракцый у далейшым. У прыватнасьці АК прызнаў мэтазгодным дзеля ўзмацненьня партуплыву на беспартыйны актыў і работы з ім, паасобныя, больш важныя пытаньні, пасьля абгаварэньня на фракцыі, абгаварыць на нарадах беспартыйнага актыву таго ці іншага непартыйнага органу.

## Вынікі перавыбараў кіраўнічых органаў ЛКСМБ і работа з актывам КСМ.

*(Аршанская акруга).*

Аршанскі Акругком, падводзячы вынікі перавыбараў бюро ячэек і РК КСМ, канстатаваў, што яны прайшлі пры разгорнутай шырокай самакрытыцы, пры большай актыўнасьці радавых камсамольцаў. Але ў частцы вясковых ячэек крытыка была недастаткова разгорнута. Мела таксама мейсца баязнь самакрытыкі з боку часткі актывістых (будаўнікі) і нявер'е ў вынікі крытыкі (Круглае).

У час кампаніі ўвага камсамольскай арганізацыі была сканцэнтравана на пытаньнях барацьбы з правай небясьпекай, паляпшэньні саюзнага кіраўніцтва і лепшай падрыхтоўкі да перавыбараў саветаў і наогул прадстаячых гаспадарча-палітычных кампаній у вёсцы.

Наогул, у выніках перавыбараў палепшыўся сацыяльны склад бюро ячэек КСМ. У складзе бюро ячэек павысіўся % рабочых з 25,1% да 27,7% і батракоў з 8,9% да 10,2%. Процант сялян-беднякоў паменшыўся з 37,6% да 35,3%, а сераднякоў з 16,7% да 14%. Аднак па некаторых раёнах рабоча-батрацкі асяродак панізіўся. Па Мсьціслаўскаму раёну 5,4%, Крупскаму 9,6%, Копыскаму 3,7%. Павялічыўся батрацка-бядняцкі асяродак у складзе РК (па лічбах ад 5 раёнаў): батракоў з 14,5% да 19,3%, беднякоў з 33,3% да 37,7% паменшыўся % іншых (з 5,2% да 1,8%).

Павялічыўся партасяродак у складзе бюро ячэек з 15,8% да 18,8%. Склад бюро ячэек абнавіўся на 39%. У складзе-ж сэкратароў ячэек наадварот атрымалася памяншэньне партасяродку з 47,6% да 42,1%. АК тлумача гэта тым, што вылучан новы актыў і вынікам аднаўленьня складу сэкратароў на 38%, а таксама тым, што шэраг партячэек не зьвяртае належнае ўвагі парткіраўніцтву ячэйкамі КСМ і скарыстаньню партасяродку КСМ у камсамольскай рабоце.

Акругком прапанаваў у далейшым паглыбіць растлумачэньне, асабліва ў масах нізавога актыву, сутнасьці правага ўхілу і прымірэнцтва да яго, і сутнасьці трацкісцкага ўхілу. Таксама даручана ўзмацніць праверку вылучаных на актыўную работу, ачысьціць рады актыву і саюзу ад клясава-чужых элемэнтаў.

Прапанована ў будучым навучальным годзе і ў час летняй вучобы, больш уключаць у сетку партадукацыі камсамольскага актыву.

Апроч гэтага, прапанавана правесьці раённыя курсы камсамольскага і піанэрскага актыву, у першую чаргу для бядняцка-батрацкага актыву; правесьці ў горадзе каротка-тэрміновыя вячэрнія курсы камсамольскага актыву, падрыхтоўваючы яго да летняй работы.

У мэтах аказваньня практычнай дапамогі актыву КСМ з боку парторганізацыі, Акругком знайшоў неабходным правесьці групавое прымацаваньне партыйцаў да працы ў ЛКСМБ і ўскласьці большую адказнасьць за працу ЛКСМБ на партядро КСМ.

## Работа сярод работніц.

*(Ф-ка „Чырвоны Мазыранін“, г. Мазыр).*

Мазырскі Акругком праверыў пастаноўку і вынікі работы сярод работніц на фабрыцы „Чырвоны Мазыранін“.

Праверка выявіла шэраг дасягненьняў у выкананьні дырэктыў аб працы сярод работніц.

Практычна праводзіцца дырэктыва па ўцягваньню работніц у рацыяналізацыю вытворчасьці (прапанова работніц па аб'яднаньню экспэдыцыі і ўпакоўкі дала эканомію 360 р., стандартызацыя ўпакоўкі—перайшлі на 10-20 кілёяшчыкаў); павялічыўся ўдзел работніц у вытворчых нарадах (85% работніц наведвае вытворчыя нарады).

Ёсьць дасягненьні ў справе прасоўваньня работніц на вышэйшую кваліфікацыю (2 работніцы вылучаны падмастэр'ямі, 26 работніц пераведзены ў вышэйшыя разрады).

Некалькі палепшылася матар'яльнае становішча і бытавыя ўмовы работніц і павялічана зарплата на 5%, пры большым падцягненьні ніжэйшых разрадаў, павялічан інтэрнат для адзінокіх работніц (быў на 3 чал.—цяпер на 15).

Некалькі палепшылася палітыка-выхаваўчая работа. Усе работніцы ўцягнуты ў школы (па лініі партасьветы 39 работніц, у ВШРМ—35 і ў лікпункты 15). Пашыран чырвоны куток, але-ж у ім няма скамеек, абсталяваньня, холадна і цёмна.

Побач з гэтым слаба ідзе ўцягваньне работніц у партыю, слаба падрыхтоўваюцца камсамолкі для перадачы ў партыю (у яч. КСМ—46 работніц), не наладжана работа з актывам (55% раб. зьяўляюцца актывам). Зусім амаль не працуе фабрычны дэлегацкі сход (адсутнасьць кіраўніка).

Работніцы ня ўцягнуты ў каапэрацыю.

АК зьвярнуў увагу на недастатковую разгорнутасьць самакрытыкі сярод работніц (больш займаюцца абгаварэньнем асобных таварышоў).

Даручана выдзяліць памяшканьне для сталоўкі, гардэробу, умывальнага пакою, адчыніць буфэт-ларок, вывучыць магчымасьць арганізацыі пляцоўкі і іншых бытавых установаў. Падрыхтаваць ня менш 5 работніц для пасылкі ў навучальныя ўстановы ў 29—30 г.

Адзначаючы неразуменьне сутнасьці нацпытаньня асобнымі групамі рабочых, АК прапанаваў узмацніць інтэрнацыянальнае выхаваньне.

## Узьняць работу з піянэрамі.

*(Віцебская акруга).*

Піянэрарганізацыя Віцебшчыны налічвае ў сваіх шэрагах 11.732 піянэры. Віцебскі АК, азнаёміўшыся са становішчам піянэрарганізацыі, адзначыў, што піянэррух за апошнія часы перажывае цяжкасьці. Няўмела зьвязваліся задачы камуністычнага выхаваньня з інтарэсамі і запатрабаваньнямі дзяцей і адсутнічала сыстэма і паступовасьць у рабоце. У выніку гэтага меўся выхад часткі піянэраў з атрадаў і скарачэньне росту апошніх. У значнай меры, па думцы АК, гэта акалічнасьць зьяўляецца вынікам паніжэньня ўвагі і дапамогі піянэрруху з боку ўсяе савецкае грамадзкасьці.

У мэтах узмацненьня работы сярод піянэраў, Акругком даручыў склікаць акруговую нараду партыйных і камсамольскіх работнікаў для абгаварэньня пытаньняў работы сярод піянэраў і распрацоўкі мерапрыемстваў па яе паляпшэньню.

Акругком таксама прапанаваў, у мэтах забесьпячэньня належным кіраўніцтвам піянэрработы, зараз-жа паставіць на сходах ячэек пытаньне піянэрработы для распрацоўкі канкрэтных мер па яе падняцьцю.

У мэтах большага разгортваньня ўлетку аздараўленчай работы сярод піянэраў, даручана арганізаваць у гэтым годзе 2 раённых лягеры, адзін акруговы дом адпачынку, пляцоўкі і г. д. Розным арганізацыям даручана разглядзець пытаньне аб дапамозе ў гэтай справе.

Даручана даць дырэктывы аб дапамозе з боку настаўніцтва, прымацаваньні дэлегатак да атрадаў і аб дапамозе з боку дактароў.

## Аб чым пісаць у „Весткі ЦК КП(б)Б“.

Для чарговых нумароў „Вестак“ рэдакцыя запрашае дасылаць матар'ял па паступным пытаньням:

1. Пастаноўка і парткіраўніцтва сацыялістычным спаборніцтвам.

2. Формы і мэтады падрыхтоўкі і правядзеньня чысткі партыі.

3. Пастаноўка работы ячэек па ўцягваньню ў партыю рабочых і батракоў і работы з новым партыйным папаўненьнем. Формы і мэтады работы з беспартыйным актывам.

4. Работа партарганізацыі па чыстцы савецкага, гаспадарчага і каапэрацыйнага апарату і па барацьбе з бюракратызмам.

5. Практыка работы па высоўваньню рабочых, батракоў і сялян-беднякоў у дзяржапарат.

6. Пастаноўка парткіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём прадпрыемстваў.

7. Формы, мэтады і вынікі разгортваньня самакрытыкі, узмацненьне партдысцыпліны і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

8. Разгортваньне работы па барацьбе з ухіламі ад генэральнай лініі партыі.
9. Арганізацыйныя формы і мэтады нізавой партыйнай і масавай работы на прадпрыемствах.
10. Работа сельячэек і райкомаў па арганізацыі вясковай беднаты.
11. Парткіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём вёскі. Роля сельячэйкі ў сацыялістычным перабудаваньні вёскі.
12. Пастаноўка работы сельсаветаў з пункту погляду правядзеньня імі клясавай лініі.
13. Рабочае шэфства над вёскай.
14. Работа сярод сэзоньнікаў і будаўнікоў.
15. Практыка работы па агрананізацыі вёскі.
16. Опыт паліт. і культмасавай работы сярод рабочых, якія жывуць у вёсцы.
17. Выхаваньне новых слаёў рабочых і барацьба з адсталымі настроямі сярод асобных груп рабочых.
18. Партыйная і палітмасавая работа ў пагранічных раёнах.
19. Практыка работы мясцовых парторганізацый па барацьбе з антысэмітызмам і па інтэрнацыянальнаму выхаваньню рабочых і сялянскіх мас.

Рукапісы павінны быць разборчывымі і на аднэй старонцы ліста. Пажадана, каб яны былі надрукаваны на машынцы.

---

Аб рабоце цэхавай ячэйки на прадпрыемстве.

Ролі цэх'ячэйкі ў справе палепшаньня вытворчасьці.

Аб мэтадах кіраўніцтва ячэйкамі гаспадарчым жыцьцём прадпрыемства.

Аб рабоце групорга і групавых агітатараў.

Аб падрыхтоўцы і выхоўваньні нізавога партактыву,

Аб усім гэтым пішэце ў бліжэйшыя чарговыя нумары

**„Вестак ЦК КП(б)Б“**

Карэспандэнцыі пасылайце па адрасу:

*Менск ЦК КПБ(б)Б „Весткі ЦК“.*

Рэдактар: *Рэдкалегія.*

Друкарня „БДВ“. Заказ № 2859. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 1784.